БЕЛАРУСКІ АТАМ



Загрузка актыўнай зоны ўранам. (Глядзі стар. 2 і 6).

Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 46 (301) | ГОД VII | 18 ЛІСТАПАДА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР

УЛАДЗІМІР ПАЎЛЮЧУК

# РЭПАРТАЖ АБ ГЕРОЯХ СУЧАСНАСЦІ

Ужо асенняе сонца схілілася да зямлі, калі на стале зазваніў тэлефон.

— Набліжаецца Дзень Настаўніка, — гаварыў галоўны рэдактар, — напішыце нешта аб настаўніках у заўтрашні нумар.

— У заўтрашні нумар? — здзівіўся я.

— Ну так. Можа быць рэпартаж аб працы нейкай добрай школы, аб нейкім добрым настаўніку.

У памяці перасунуліся дзесяткі добрых школ, дзесяткі выдатных настаўнікаў. Аб усіх іх можна многа чаго добрага расказаць. Ды як жа так пісаць, таварыш рэдактар. Давайце мо' паедзем дзе ў школу, пагутарым з настаўнікамі. Што няма якраз аўтамашыны, што ўжо даволі позна? Нічога, мы гэта зробім вось так «на нібы», сілаю свайго ўяўлення, карыстаючы з нашага доўгага знаёмства працы многіх нашых настаўнікаў.

І вось мы ў «глыбокім тэрэне». Усходнія акраіны Сямяцічага павета. Вось для прыкладу Клюковічы. Пад школу толькі што заехала кіно. Дзеці крычаць быццам звар'яцелыя. І як тут не крычаць. Кіно ў вёсцы вялікая сенсацыя, прыязджае раз у месяц і гэта не заўсёды. Настаўніца робіць агульны збор, тлумачыць дзецям, калі будзе фільм, па колькі білет, крыху лае (хто гэта бачыў так крычаць, што аб нас людзі падумаюць). Пакінем іх тут на нейкі час, а самі зойдзем у канцылярыю. У канцылярыі Клюковіцкай школы абсалютны лад і парадак. Кніжкі, дзённікі і сшыткі ў чысценькіх абложках са стараннымі надпісамі, падручная бібліятэка поўная ўсялякіх метадычных дапаможнікаў падзеленая паводле прадметаў. Усё да найдрабнейшай школьнай прылады, да цыркуля і сціркі знаходзіцца на сваім месцы, уложанае з густам, з захаваннем норм, прапорцый і сіметрыі.

Уваходзіць Язэп Палка, загадчык школы. «Што добранькага?» — пытае ветліва. «А, нічога, проста так, хацелі пабачыць, што ў вас новенькага».

— Добра, сядайце, пагутарым.

Загадчык расказвае аб штодзённасці сваёй школы. Вось, напрыклад, школьны агарод. Праца ў агародзе шмат чаго вучыць дзяцей. А з другога боку агарод прыносіць школе штогод «грубыя тысячы» даходу. З грошай гэтых школа наладжвае дзецям добрыя навагоднія ёлкі, купляе розныя школьныя неабходнасці.

(Працяг на стар. 4)

ВІНЦУК САВА

# ЗЛОДЗЕЙ

Янка быў злосны і расстроены. Ходзячы з кута ў кут у сваім маленькім пакойчыку, размеры якога хутчэй нагадвалі кабіну касманаўта, чым жылое памяшканне, комкаў у пальцах даўно пагасшую папяросу.

«У шахту ездзь, або ў горад на фабрыку. Першынство маюць сямейныя», — прыпомніў ён словы працаўніка бюро працы, і з вуснаў яго вырваўся праклён.

«З букетамі там цябе сустракаць будуць, — іранізаваў Янка. — Ягоны сын напэўна не паедзе ў горад, яму праца знойдзецца, няглезячы на тое, што і так маюць з чаго жыць. Толькі ў мяне заўсёды калоды пад нагамі».

І сапраўды жыццё Янкі ўкладвалася нялёгка.

Маткі ён зусім не памятаў. Мачыха адносілася абыякава. Проста мала звяртала на яго ўвагі. Калі меў сем год, памёр бацька. Мачыха незадоўга, сабраўшы пажыткі, выехала да новага мужа, пакідаючы яго на ласку дзядзькі, у якога на кватэры жылі яго бацькі. Дзядзька лічыўся добрым гаспадаром.

«Каб яму гэтак было добра на тым свеце», — успомніўшы яго, выругаўся Янка.

Будзілі чуць свет. Ах, як хацелася спаць! З зайздрасцю паглядаў на ўпаснага сына гаспадара, які, хоць быў два ра-

(Працяг на стар. 4)

КУЛЬТУРА СУЖЫЦЦЯ



## Свядомае мацярынства і бацькоўства

Аб ім у нас гаворыцца вельмі нядаўна. Але лепш позна, чым ніколі — даўно ўжо людзі так сцвердзілі.

Ідэю свядомага мацярынства нясе ў нас Таварыства свядомага мацярынства. Гэта арганізацыя маладая. Аддзелы ваяводскія існуюць ужо, ўсюды, павятовыя, пераважна ўсюды, а на вёсках дзейнасць яго абмяжоўваецца пакуль да вельмі рэдкіх гутарак аб ідэі свядомага мацярынства. Таму мы палічылі патрэбным паінфармаваць крыху чытачоў аб гэтых важных і набалелых справах. Для гэтага і звярнуліся да старшыні Ваяводскага аддзела ТСМ у Беластоку — др Берты Шайкоўскай за выясненнямі.

— Скажыце, доктар, якая была істотная прычына паўстання ТСМ?

— Ва ўсім свеце зараз гаворыцца, і ўсё штораз больш, аб патрэбе планавання сям'і. Такая патрэба існуе ў нас. Яна і сталася матарам дзейнасці ТСМ.

— Як разумець — планаванне сям'і.

—Проста, як кожнае іншае планаванне. Загадзя абдумаць, разважыць, каб не мець потым неспадзянак, якія часта бываюць прыкрымі.

— Даходзім тут хіба да пытання непажаданай цяжарнасці?

— Так. Ці ўяўляеце сабе, як многа ёсць у нас выпадкаў перарывання цяжарнасці? Мы асаблівы націск кладзем на змяншэнне такіх выпадкаў. Медыцына мае зараз так многа іншых сродкаў для запабягання цяжарнасці, з якіх людзі могуць і павінны карыстаць. Штучнае перарыванне цяжарнасці вельмі шкодзіць здароўю жанчыны. А запабягаць — і лягчэй, і здаравей.

— Ці Вы, доктар, згодзіцеся са мной, што па крайняй меры палавіна адказнасці тут ляжыць на мужчынах?

— Зусім правільна. На жаль мужчыны ў большасці эгаістычна падыходзяць да гэтых спраў — усю адказнасць звальваючы на жанчыну.

— Чым жа па-Вашаму тлумачыць гэта?

(Працяг на стар. 5)

РОДНЫ КРАЯВІД



Фота: Г. Рагазінскі

# ААН супраць ядзерных выбухаў

Бяспраўная блакада Злучанымі Штатамі Кубы адсунула на даўжэйшы час другія палітычныя пытанні, ад якіх залежаць далейшыя лёсы свету. З другога, аднак, боку гэты бяспрыкладны ў адносінах міжнародных крок ЗША дазволіў многім народам усведаміць патрэбу ўзмацнення намаганняў на карысць шпаркага вырашэння набалелых пытанняў шляхам перагавораў. Усё павінна рабіцца з думкай аб трывалым міры.

Толькі, мусіць, усведамленне небяспек, якія тояцца ў накінутай свету імперыялістамі гонкі ўзбраенняў стала прычынай рашучасці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прыступіўшай да спрэчак па пытанню аб абмежаванні ўзбраенняў і забароне ядзерных выпрабаванняў. У выніку спрэчак распачатых у мінулым тыдні, Агульная Асамблея прыняла рэзалюцыю, аўтарамі якой з'яўляюцца 37 нейтральных дзяржаў, а якая заклікае нуклеарныя дзяржавы да спынення ўсялякіх ядзерных выпрабаванняў, пачынаючы ад 1 студзеня 1963 года.

Знамянальны факт, што гэтая рэзалюцыя была прынята 75 галасамі пры 21 паўстрымоўваючымся, пры чым не было ані аднаго голасу супраць. Рэзалюцыя, у значнай меры, нагадвае пазіцыю, якую па гэтаму пытанню ўжо даўно займаюць сацыялістычныя дзяржавы. Клеймуючы ўсялякія ядзерныя выпрабаванні, Генеральная Асамблея заклікае ў рэзалюцыі нуклеарныя дзяржавы да падпісання пагаднення аб спыненні гэтага роду выпрабаванняў не пазней 1 студзеня 1963 года. У выпадку, калі б такое пагадненне не было заключана, ААН патрабуе, каб нуклеарныя дзяржавы спынілі ядзерныя выпрабаванні ў касмічнай прасторы, атмасферы і пад вадою, а таксама, каб заключылі тымчасовае пагадненне аб спыненні выпрабавальных выбухаў пад зямлёю.

Прадстаўнік Савецкага Саюза, Марозаў, выступаючы ў час спрэчак, заявіў, што СССР хоча поўнага спынення ўсялякіх ядзерных выпрабаванняў, пачынаючы ад 1 студзеня 1963 года, а таксама жадае праводзіць размовы па гэтаму пытанню на аснове мемарандума 8 нейтральных краін — удзельнікаў Жэнеўскай канферэнцыі 18 дзяржаў, займаючайся, як вядома, справамі разбраення. Ведаем, што 8 нейтральных краін высунула ў час жэнеўскіх размоў праект выкарыстання спецыяльнага тэхнічнага абсталявання, прызначанага для выкрывання ядзерных выбухаў, якое знаходзіцца ў распараджэнні большасці дзяржаў свету. Гэтым самым праект прадбачвае таксама ўтварэнне нейтральных кантрольных камісій, дзейнічаючых у выпадку, калі былі выяўлены выбухі невядомага паходжання. Як вядома, Савецкі Саюз згадзіўся тады на гэтую прапанову, а заходнія дзяржавы яе адкінулі.

Зараз на XXII сесіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый Марозаў выразіў надзею, што гэтыя дзяржавы пойдуць за Савецкім Саюзам. З другога, аднак, боку, заходнія дзяржавы і зараз робяць усе намаганні ў напрамку, каб пазбавіць гэтую рэзалюцыю ААН значэння пры дапамозе малой групы сваіх саюзнікаў.

Гэтыя справы могуць для нас з'яўляцца сведкам таго, што і далей ЗША і Вялікабрытанія не маюць намеру спыніць усялякія ядзерныя выпрабаванні. А гэтага спынення і жадаюць практычна беручы ўсе члены ААН.

Як паказалі вынікі галасавання над рэзалюцыяй 37 дзяржаў, сітуацыя заходніх дзяржаў стаецца для іх крыху клапотнай. Кубінская авантура моцна пахіснула палітычны прэстыж Злучаных Штатаў ва ўсім свеце. Калі б яшчэ зараз яны захацелі праводзіць фальшывую ігру па пытанню аб ядзерных выпрабаваннях, дык павінны былі б лічыцца з далейшым падзеннем гэтага прэстыжу і ўзростам незадавальнення многіх заходніх палітыкаў.

Ужо неўзабаве распачнуцца перагаворы Камітэта па раззбраенню 18 дзяржаў. Гэтыя перагаворы пакажуць, ці і ў той ступені заходнія дзяржавы ацанілі цяперашняе нездавальненне народаў развіццём гонкі ўзбраенняў, тоячы ў сабе небяспеку вайны і павялічваючых эканамічныя цяжкасці.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# БЕЛАРУСКІ АТАМ

У Савецкім Саюзе ўсё шырэй разгортваецца праца ў напрамку мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Найбольш эфектыўнымі і агульнапрызнанымі з сучасных апаратаў для даследванняў у галіне ядзернай фізікі, энергетыкі, радыяцыйнай біялогіі з'яўляюцца даследчыя атамныя рэактары. Да гэтага часу ў СССР пабудаваны цэлы шэраг ядзерных рэактараў розных тыпаў.

У маі 1962 года ўступіў у строй першы ў Беларусі даследчы атамны рэактар Акадэміі навук БССР.

З пускам рэактара вучоныя Беларусі атрымалі добрую навукова-даследчую базу, якая мае асабліва важнае значэнне для развіцця народнай гаспадаркі рэспублікі.

Для рэактара пастаўлен вялікі будынак. У цэнтральнай фізічнай зале за масіўнай заслонай з цяжкога бетону і вады знаходзіцца сэрца ўсёй установкі. Тут, на шасціметровай глыбіні размяшчаецца так званая актыўная зона рэактара. У актыўнай зоне рэактара ёсць сем вертыкальных каналаў для размяшчэння ў іх шпянёў рэгуляцыі і аварыйнай аховы, а таксама 11 вертыкальных эксперыментальных каналаў. Ланцуговая рэакцыя пачынаецца пры загрузцы ўранавых касет у актыўную зону рэактара і пры падняцці шпянёў рэгуляцыі, зробленых з карбіду бору, на акрэсленую вышыню. Пры апусканні шпянёў рэгуляцыі ў актыўную зону адбываецца настолькі моцнае паглынанне нейтронаў, што ланцуговая рэакцыя затрымліваецца. Так вядзецца кіраванне працэсам дзялення ў актыўнай зоне рэактара.

Цеплыня, выдзеленая за ўранавых шпянях актыўнай зоны рэактара, адводзіцца дысцыліраванай вадой, якую накачваюць насосы. Затым яна ахалоджваецца вадой другога контура.

Магутныя струменні хуткіх нейтронаў і гамапраменняў, якія ўтварыліся ў актыўнай зоне, прадугледжана выпускаць праз тоўшчу бетоннай аховы па дзесяці гарызантальных каналах у фізічную залу, дзе абсталявана апаратура для даследванняў.

Адзін з такіх каналаў (так званая цеплавая калона) прызначаны для эксперыментаў на нейтронах малых энергій — цеплавых нейтронах.

На рэактары вядзецца ўдасканаленне цеплавой калоны. Праектам групы інжынераў і фізікаў Беларускай Акадэміі навук распрацаваны варыянт, які вельмі адрозніваецца ад усіх, створаных раней. Апрача таго, цеплавая калона будзе забяспечваць атрыманне цеплавых нейтронаў, зменeная канструкцыя дазволіць у непасрэднай блізкасці да актыўнай зоны абпраменьванне буйных біялагічных аб'ектаў.

На рэактары зроблена ўстаноўка эксперыментальнай пятлі ў цэнтры актыўнай зоны для даследвання арганічных носьбітаў цеплыні будучых атамных электрастанцый.

Канструкцыя рэактара, а таксама сістэма аўтаматыкі і дазіметрычнага кантролю забяспечвае поўную бяспеку абслугоўваючага персаналу і выключае дрэннае ўздзеянне на акружаючае асяроддзе.

Вельмі важнай задачай, якой паспяхова вырашаецца цяпер рэактарам, з'яўляецца вытворчасць кароткажывучых радыёактыўных ізатопаў. Праца з радыёактыўнымі рэчывамі на рэактары вядзецца ў спецыяльных памяшканнях — гарачых камерах, абсталяваных механічнымі маніпулятарамі і аптычнай сістэмай назірання.

Гарачыя камеры выконваюць і іншую ролю — памяшкання для абпраменьвання. Змяшчаючы ў камеры радыёактыўныя рэчывы, напрыклад, радыёактыўны кобальт або адпрацаваныя цеплавыдзяляючыя элементы рэактара можна атрымаць магутную крыніцу гама-праменняў.

На рэактары можна атрымаць вялікую колькасць радыёактыўных ізатопаў, прэпараты радыёактыўнага золата, ёда, натрыя і іншых элементаў. Гэта дазволіць пашырыць круг даследванняў, якія ўжо многа год вядуцца на Беларусі.

**В. ЕРМАКОЎ**
Начальнік атамнага рэактара Акадэміі навук БССР.

# Спорт

Прыкры сюрпрыз зрабіла сваім сімпатыкам бытамская Палёнія, якая ў турніры на кубак чампіёнаў прайграла ў Турцыі камандзе Галятасарай аж 1:4 і, практычна, выбыла з далейшых гульняў. Адрабіць у сябе так вялікія страты будзе амаль немагчыма, тым больш, што апошнія матчы Палёніі паказваюць, што яна перажывае крызіс. Вось і апошняй нядзеляй прайграла яна апольскай Одры, якая, як вядома, у гэтым годзе нічога не паказала. Пытанне вырашыцца ўжо 18 лістапада, калі чэмпіён Турцыі сустрэнецца на выездзе з нашым чэмпіёнам. Ці памогуць уласныя сцены? Палёнія не мае свайго стадыёна і ў сапраўднасці ўсе матчы праводзіць на чужых палях. Хутчэй трэба разлічваць на холад.

Найбольшай неспадзянкай перадапошняга тура чэмпіяната краіны было паражэнне лідэра Гурніка Забжэ з хажоўскім Рухам. Аднак па-ранейшаму займае ён першае месца, з тым толькі, што зраўнялася з ім ачкамі саснавецкае Заглэмбе.

У беластоцкім футболе таксама не абышлося без неспадзянак. У таварыскім матчы гайнаўская «А» — класавая Пушча разграміла III-лігавага нурэцкага Гусара 8:2. Для гайнавян гэта прыемная заяўка на веснавыя гульні. Як вынікае з асабовага складу Пушчы, у гэтую каманду прыйшло значнае папаўненне. Перад Гусарам малюецца зусім не ружовая перспектыва. Яму ж неўзабаве гуляць на кубак краіны з рэзервамі Легіі (як вядома, у кубкавых гульнях Гусар заняў у ваяводстве другое месца і разам з элцкім Мазурам атрымаў права прадстаўляць беластоцкі футбол на цэнтральных спаборніцтвах).

Беласточчына мае, нарэшце, чэмпіёнаў Польшчы і ў камандных масштабах. Дабіліся гэтага валейбольныя калектывы. Жаночая каманда ТККФ Сполэм з Бельска заваявала кубак Цэнтральнага савета прафсаюзаў (у сёлеташнім турніры на гэты кубак удзельнічала каля 6 тыс. аматарскіх каманд), а валейбалісты беластоцкай Гвардыі сталі чэмпіёнамі краіны ў тройках.

Далейшага поспеху дабіліся і баксёры беластоцкай Гвардыі, разграміўшы ў чарговым матчы Зніч з Прушкава 18:2. У міжваяводскай лізе яны яшчэ не прайгралі ніводнай сустрэчы і вядуць у турнірнай табліцы перад лодзінскім Арлом. У фінальнай пульцы на кубак ТККФ і Т беластоцкія юніёры нязначна прайгралі ў Лодзі тамтэйшым баксёрам (10:12) і гэтым у першым крузе занялі другое месца, адступіўшы першае Лодзі. Трэцяе месца займае Познань, а чацвёртае — Вроцлаў.

У чэмпіянаце СССР па футболу маскоўскія дынамаўцы пацярпелі паражэнне ад сваіх кіеўскіх аднаклубнікаў, але не ўпусцілі лідэрства. Праўда, першае месца цяпер раздзяляюць яны з маскоўскім Спартаком, які ад даўжэйшага часу ідзе без паражэнняў і хіба ў гэтых дзвюх камандах трэба бачыць будучага чэмпіёна. Спартак зраўняўся з дынамаўцамі па вялікіх і малых ачках і ў наступным матчы можа высунуцца наперад. У другой групе закончыліся ігры. Перад апошнім турам склалася тут вельмі цікавая карціна. Толькі дзве каманды (Лакаматыў і Авангард) не былі зацікаўлены ў выніках апошняй гульні. Усім апошнім тэарэтычна пагражала адпіска з першага эшалона. У вельмі прыкрай сітуацыі апынулася Беларусь, якую ў перадапошнім матчы разграміў маскоўскі Лакаматыў 7:2, і якая, гэтакім чынам, страціла шмат вельмі важных цяпер малых ачкоў.

Быць, або не быць — такі быў лозунг апошняй сустрэчы. Беларусь выйграла з Жальгірысам, але ўтрымалася ў «А» класе толькі дзякуючы пройгрышу Даўгавы з Авангардам.

**Аут**




# БАРОН фон ГОЛЬДРЫНГ




## Праверка нерваў

Альфрэда Лера ўжо тыдзень, як сымуляваў хваробу.

— Я дайшоў да таго, што калісьці проста звалюся з ног, і больш ужо не падымуся, — скардзіўся ён Генрыху.

Але стары больш прыкідваўся. Нават дачцы і зяцю ён не прызнаваўся, якія прычыны прымусілі яго да гэтай хітрасці.

Яшчэ так нядаўна стары вынаходнік даводзіў Генрыху, што навука стаяла, стаіць і заўсёды будзе стаяць над палітыкай, над жыццём, што вучоныя, як і мастакі, павінны жыць у вежах са слановай косці, каб ніхто не перашкаджаў лёту іх думак. Нават сваю працу на заводзе Лера разглядаў як такую вежу.

264

І вось у гэтай вежы заззялі страшныя прабоіны.

Сёння, перад тым, як пазваніў Лемке, Лера пачаў намякаць, асцярожна наводзіць размову на цікавую для яго тэму, але Генрых вымушаны быў пайсці. І стары інжынер зноў застаўся са сваімі думкамі.

Ён узяўся было разглядаць матэрыялы прынесеныя з завода, але вымушаны быў іх схаваць — сёння яўна не працавалася. Давядзецца праверыць усе разлікі заўтра раніцай на свежую галаву.

Раней такія матэрыялы ніколі не заставаліся ў Лера, нават тады, калі ён быў хворы. Штэнгель забіраў іх вечарам, каб схаваць іх на нач у спецыяльным сейфе на заводзе. Але Кубіс зрабіў для свайго цесця палёгку. Звычайна, выходзячы са сваіх уласных інтарэсаў. Ён спадзяваўся, што аднаго цудоўнага дня яму такі пашчасцівіцца здабыць патрэбныя чарцяжы.

Пасля шлюбу дачкі Лера пакінуў сабе ўвесь першы паверх, але жыў, фактычна, толькі ў кабінеце. Сёння Лера адчуваў сябе асабліва самотным у сваім кабінеце. І трэба ж было пазваніць гэтаму Лемке! Праўда, Гольдрынг абяцаў прыйсці. Вось, здаецца, і ён. Так!

265

— Маю надзею, са ўсімі справамі ўжо скончылі? — пытае Лера.

— На сёння так. Магу хоць заначаваць у вас.

— Дык гэта проста цудоўна! — узрадаваўся Лера. — Зараз павячэраем і вып'ем пляшку віна, каб лепш спалася!

— О, я і так сплю, бы сусел!

— Маладосць! А мне не спіцца...

— Відавочна вы выбіліся са сну. Выпіце тады снатворнага.

— Не ў снатворным рэч, спаць не даюць думкі...

— Такія трывожныя?

Лера адказаў не адразу.

— Вы ведаеце рашэнні Ялцінскай канферэнцыі? — спытаў ён нарэшце, напружана ўглядаючыся ў Генрыха.

— Чытаў, але падрабязнасцей цяпер не помню.

— Але ж вы не маглі забыць тых рашэнняў, дзе гаворыцца пра пакаранне гэтак званых ваенных злачынцаў!

— Думаю, што гэта толькі дэкларацыя. Вайна — ёсць вайна, і не было яшчэ прыкладу ў гісторыі...

— Так, яны не маюць права, яны не могуць судзіць, хто вінаваты, а хто не!

— Вы так гэта гаворыце, быццам рашэнні гэтай канферэнцыі кранулі непасрэдна вас.

— Калі яны набяруць важнасці, яны закрануць і мяне.

— Нічога не разумею!

266

 

# СЯБРА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ



Пачэсную і цяжкую нясуць службу перакладчыкі, асабліва паэты. Пад іх пяром думкі другога чалавека, яго інтымныя перажыванні павінны ізноў хваляваць чытача. Разам з тым дасканалую замену павінен атрымаць увесь стройны склад верша, падпарадкаваны строгім прадпісанням паэзіі. Толькі ў руках бяздушнага рамесніка, якому не хапае крапатлівасці і майстэрства, атрымаецца нямы і выцвілы твар. У нашым выпадку аб добрасумленнай працы гэтых пасрэднікаў паміж літаратурамі можам судзіць, чытаючы пераклады лепшых польскіх творцаў з беларускай паэзіі: Казімежа Анджэя Яворскага, Леапольда Левіна, Багдана Жыраніка ці Сэверына Поляка. У гэтым годзе яны парадавалі нас зборнічкам нізкі купалаўскіх вершаў у выданні Паньствовага Інстытуту Выдаўнічага. Абмяркоўваючы гэтую навінку ў «Ніве», мы гаварылі аб шматгадовай традыцыі сувязей польскіх літаратараў як перакладчыкаў з паэзіі Купалы, традыцыі, якая ў многіх выпадках вырашае аб высокім узроўні іх працы. Дык да гэтай жменькі людзей, маючых ужо не першы дзесятак год дачыненне з беларускай паэзіяй, залічваем таксама люблінскага літаратара, Казімежа Анджэя Яворскага. Таму мэтай нашай сустрэчы з ім і была цікавасць да яго шматгадовай перакладчыцкай дзейнасці.

Казімеж Анджэй Яворскі нарадзіўся 28 лістапада 1897 года. Калі маладому творцу было 23 гады, з'явіўся яго паэтычны дэбют. Неўзабаве ў 1924 годзе ўбачыў свет першы зборнік вершаў К. А. Яворскага «Чырвонай і белай каханцы». Агулам у даваенны перыяд выйшла пяць такіх зборнікаў. 1933 год у літаратурнай дзейнасці паэта быў знамянальны выхадам у Хэлме Любэльскім першага нумару часопіса «Камэна». Заснавальнікамі яго былі К. А. Яворскі і мастак-жывапісец Зэнан Васнеўскі, які загінуў замучаны гітлераўцамі ў канцлагеры Берген - Бэльзэн. Ён адначасова з'яўляўся аўтарам мастацкага афармлення «Камэны», чалавекам душой і сэрцам ёй адданым. Часопіс паставіў перад сабою высакародныя мэты — спрыяць шляхам ідэйнай накіраванасці твораў, шляхам перакладаў з іншых літаратур культурнаму збліжэнню славянскіх народаў. Да 1939 года з'явілася агулам 6 гадавікоў «Камэны», з якіх кожны налічваў 10 нумараў. Ужо ад пачатку існавання часопіс праводзіў у жыццё сваю асноўную праграму. На яго старонках пачалі з'яўляцца пераклады з рускай, украінскай, беларускай, сербахарвацкай, лужыцкай, славацкай і балгарскай моў.

Першае бліжэйшае сутыкненне К. А. Яворскага з беларускай паэзіяй наступіла ў 1934 годзе, калі ў рукі паэта трапіла выдана ў СССР на рускай мове «Анталогія беларускай літаратуры» з прадмовай Бруна Ясенскага. Водгукам на гэтае выданне стаўся нумар 7 «Камэны» ад 1935 года. Гэты нумар і лічыць польскі паэт сваім дэбютам перакладчыцкай працы з беларускай мовы. Тут з'явіліся пераклады паэта з паэмы Міхася Чарота «Босыя на вогнішчы», паэмы Паўлюка Труса «Дзевяты падмурак», рад твораў Андрэя Александровіча. Побач з гэтым, увагу польскага паэта прыцягала літаратурная дзейнасць пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Як вядома, у асноўным, увесь тагачасны беларускі культурны рух засяроджваўся ў Вільні. Тут ставілі свае першыя крокі Максім Танк, Піліп Пестрак, Міхась Машара, Валянцін Таўлай. К. А. Яворскі асабліва высока цаніў творчасць М. Танка. Пераклады з яго паэзіі прывялі пісьменнікаў да бліжэйшых сувязей, якія выявіліся ў сардэчнай перапісцы. Польскі паэт сёння беражна захоўвае лісты М. Танка, а асабліва даражыць яго першым паэтычным зборнікам «На этапах» з аўтарскай дэдыкацыяй. У бібліятэцы К. А. Яворскага давялося мне пазнаёміцца і з такімі зборнікамі беларускага паэта як «Журавінавы цвет» і «Пад мачтай». У даваенны перыяд люблінскі літаратар пераклаў многа твораў М. Танка, у прыватнасці, са зборніка «Пад мачтай.» Аднак найбольш аблюбаваў ён Танкаву паэму «Нарач», асобныя фрагменты якой былі ўпершыню змешчаны ў зборніку «На этапах» у 1936 годзе. Асобнай кніжкай, як вядома, гэты твор, праслаўляючы нацыянальна - вызваленчую барацьбу ў Заходняй Беларусі, выйшаў у канцы 1937 года.

У працэсе перакладаў з паэзіі М. Танка К. А. Яворскі сутыкаўся неаднаразова з пэўнымі цяжкасцямі, што было выклікана яшчэ слабым у той час веданнем ім беларускай мовы. І вось М. Танк, адказваючы на запытанні польскага паэта, у сваіх лістах рабіў паясненні. Гэта выдатна дапамагала перакладчыку ў лепшым разуменні беларускага твора, глыбейшым успрыйманні яго аўтарскай задумы.

У даваенных нумарах «Камэны» вялася т.зв. «Славянская хроніка», у якой адзначаліся цікавейшыя факты з культурнага жыцця славянскіх народаў. Тут часта можна было сустрэць звесткі аб навінках беларускай літаратуры. Коратка абмяркоўваліся новыя зборнікі вершаў маладых паэтаў, даваліся іх кароткія біяграфічныя даведкі. Гэтую хроніку вёў К.А. Яворскі. «Камэна» час ад часу выдавала малым тыражом невялічкія сшыткі твораў паасобных славянскіх пісьменнікаў у серыі т. зв. «Малой бібліятэкі». На жаль не здзейсненай аказалася каштоўная задума К. А. Яворскага выдаць «Малую анталогію беларускай паэзіі». Паэт нават выступіў ужо з заклікам да яе прадстаўнікоў у Заходняй Беларусі каб дасылалі свае выданні, аднак 1939 год спыніў гэтыя намеры. А трэба адзначыць, што заклік К. А. Яворскага сустрэўся з надзвычай прыхільным успрыняццем сярод беларускіх творцаў, якія прыслалі параўнальна шмат патрэбнага матэрыялу.

Пераглядаю даваенныя гадавікі «Камэны»... Усюды сляды шчырай сімпатыі польскага паэта да літаратурнай спадчыны беларусаў. Уключна да апошняга даваеннага гадавіка бачым пераклады з блізкай сэрцу К. А. Яворскага паэзіі. У гэтым томе апынулася рад перакладаў вершаў Міхася Машары.

У зборах Казімежа Анджэя Яворскага захаваўся каштоўны нумар польскага часопіса «Сыгналы» ад 15 жніўня 1939 года, спецыяльна прысвечанага беларускай літаратуры. З вялікім задаваленнем паэт вітаў тут артыкул Ежы Путрамента п.з. «Максім Танк і беларуская паэзія». Аўтар аддаваў тут належную даніну таленту творцы паэмы «Нарач». Побач з гэтым артыкулам бачым рад перакладаў з Танкавай паэзіі, якія выйшлі з-пад пяра К. А. Яворскага. Варта адзначыць, што ва ўспомненым нумары «Сыгналаў» з вялікім нарысам аб беларускай народнай песні выступіў Рыгор Шырма.

Прыйшлі гады акупацыі. Праследаванні гітлераўцаў з вялікай сілай абрушыліся перш за ўсё на польскую інтэлігенцыю. Не ашчадзілі яны і люблінскага літаратара, які апынуўся за вышкамі канцлагера. Давялося яму тут спазнаць шмат гора і цярпенняў. Сур'ёзна надарваўся арганізм К.А. Яворскага. Аднак і ў гады цёмнай акупацыйнай ночы не маўчала муза паэта. Творы, адлюстроўваючыя гэты перыяд, увайшлі ў спецыяльны цыкл п. з. «Сэрца за дротам».

Пасляваенныя гады прыносяць новы, буйны росквіт паэтычнай творчасці К. А. Яворскага. Пісьменнік ізноў вяртаецца да перакладаў, перш за ўсё славянскіх паэтаў. За выдатныя заслугі ў галіне папулярызацыі ў Польшчы чэшскай і славацкай паэзіі Міністэрства культуры Чэхаславацкай Рэспублікі ўдастоіла польскага паэта спецыяльнай літаратурнай узнагароды ў 1948 г. Не забывае К. А. Яворскі і пра беларускую паэзію, з якою аднаўляе свае даўнія сувязі. У літаратурным часопісе «Твурчосць» друкуюцца пераклады фрагментаў «Каліноўскага» М. Танка, а з ім самім давялося паэту сустрэцца ў Варшаве. У «Пшыязні» змяшчае ён фрагменты з твора Я. Купалы «Над ракой Арэсай», а ў «Камэне» з «Ты і я». Паасобныя пераклады паэта сустрэнем таксама ў зборніках паэзіі народаў СССР, якія час ад часу выдаваліся дагэтуль у Польшчы. Разам з тым у пісьменніцкім набытку К. А. Яворскага знойдзем выказванні аб характары паэзіі Я. Купалы. У часопісе «Жыце словянске» ад 1952 года, напрыклад, аўтар даваў правільную ацэнку дакастрычніцкай купалаўскай творчасці.

— Ніхто перад ім у беларускай паэзіі, — пісаў, — не быў у такой ступені народным паэтам у поўным значэнні гэтага слова, ці калі стварыў прыгожыя родныя краявіды, ці калі адлюстроўваў быт беларускага селяніна, яго цярпенне і надзею, звычай і вераванні, песні — гісторыю народа. У яго творах паміж густа раскіданымі ў іх слязьмі — бо цяжкае было жыццё народа — заўсёды гучыць аптымізм, вера ў перамогу справядлівасці.

У 1963 годзе будзе адзначацца 30-годдзе з дня за-

(Працяг на стар. 7)



На курсе крою і шыцця (інструктар В. Цвірка).



Мастацкі калектыў (праф. Хэнтнік).

## Школа для дзяўчат

Пры Гайнаўскім ліцэі ўжо трэці год існуе Школа прафесіянальнай падрыхтоўкі. У ёй, пад кіраўніцтвам вопытных педагогаў, займаюцца дзяўчаты, якія па той ці іншай прычыне не пайшлі вучыцца далей.

Вучаніцы, апрача тэарэтычных прадметаў, праходзяць тут практычныя заняткі, такія як курс добрай гаспадыні, курс крою і шыцця, або гандлёвы курс.

Чым яшчэ займаюцца дзяўчаты гэтай карыснай школы? Амаль усе ўдзельнічаюць у мастацкім гуртку. Налічвае ён 50 асоб (мужчынскую частку калектыва складаюць вучні гайнаўскай засаднічай прафесіянальнай школы). Калектыў гэты шырока вядомы ў Гайнаўцы. Ён удзельнічае ў шматлікіх мясцовых урачыстасцях.

**Янка Цялушэцкі**

— Бачыце, барон, ваша скромнасць дала мне магчымасць нічога не гаварыць пра маю работу на заводзе. Вы чыталі ўчарашняе паведамленне пра бамбардзіроўку Англіі снарадамі - самалётамі?

— Зразумела.

— І звярнулі ўвагу на колькасць ахвяр?

— Цяжка было не звярнуць на гэта ўвагі! Такога эфекту не давала яшчэ ніводная бамбардзіроўка!

— У гэтым вінаваты я. Гэта я іх забіў!

— Сіньёрэ Лера, вы змучыліся і робіце з мухі слана.

— Не, я цалкам здаровы і пры поўным розуме. Пры такім поўным, што мог вынайсці прыладу, якая дапамагае кіраваць самалётамі-снарадамі па радыё...

— Вы? Альфрэда Лера?

— Вось бачыце, вы не верыце і злякаліся... Але я не баяўся, я дагэтуль ніколі не баяўся! Цяпер я пачаў баяцца...

— І правільна, сіньёрэ Лера, — не вытрымаў Генрых.

— Што ж вы параіце мне рабіць?

— У вас адзіны выхад.

— Які?

— Вам трэба ўцякаць у нейкую нейтральную краіну і аб'явіць у друку пратэст. Спаслацца на тое, што вас прымушалі працаваць сілай. Запратэставаць супроць таго, каб ваша вынаходства выкарыстоўвалася для руйнавання гарадоў і забойства мірных людзей. Калі вы заявіце пра гэта зараз, вам павераць.

— Вы маеце рацыю!

— Але трэба, каб вы мелі з сабою ўсё, што датычыць вашага вынаходства. Я ведаю, што здабыць гэтыя матэрыялы вельмі цяжка, але...

— У мяне ёсць фатакопіі.

— І вы такія рэчы рызыкуеце трымаць дома?

— Я іх добра схаваў. Сярод вялікай бібліятэкі гэта лёгка зрабіць.

— Тады вам няма чаго доўга думаць! Вы, урэшце, будзеце ратаваць не толькі сябе, але і сотні тысяч ні ў чым не вінаватых людзей. І гэта патрапяць ацаніць.

— Як жа ўсё гэта здзейсніць? Ды вы ведаеце, як за мною сочаць!

— Абяцаю дапамагчы вам у найбліжэйшыя дні.

Генрыху паслалі ў суседнім пакоі. Ён доўга круціўся ў ложку, усхваляваны думкаю, што, нарэшце, наблізіўся да мэты. Нават ува сне ён працягваў складаць планы таго, як найлепш здабыць патрэбныя матэрыялы.

Гадзіне а трэцяй Генрыха збудзіў Кубіс.

— Толькі што званіў Курт. Да цябе пасланец ад Лемке.

— Дзе ён?

— Курт зараз прывязе яго машынай.

Генрых пачаў хутка адзявацца.

— Чарцяжы шукайце ў бібліятэцы сярод кніжак. Фатакопіі. Магчыма, гэта якраз тое, што вам патрэбна. Пакажаце мне, і разам праверым, ці гэта так, — шэптам сказаў Генрых Кубісу, прыводзячы сябе да парадку.

— Але я не магу іх вам даць, — прашаптаў Кубіс.

— Ды на якога д'ябла яны мне здаліся! Я ж дбаю пра вас! Каб не было канфузу. Дык, можа здарыцца, што да вынаходства гэтыя фатакопіі ніякага дачынення не маюць. А калі так, трэба шукаць далей. Няўжо вы не скарыстаеце з такой шчаслівай нагоды забяспечыць сябе на ўсё жыццё? Я ўжо бачу вас багацеем!

Праз свайго пасланца Лемке паведамляў, што напароўся на партызанскую засаду, вядзе цяжкі бой і просіць неадкладнай дапамогі.

Уступаць у начны бой, ды яшчэ на баку Лемке, Генрыху, зразумела, зусім не хацелася. Але абставіны патрабавалі дзеянняў натолькі хуткіх і рашучых, каб не выклікаць падазрэнняў. Давялося па трывозе падымаць парашутыстаў і тыя два ўзводы нямецкіх егераў, якія засталіся ў Кастэль ла Фантэ, а самому адначасова ўсяляк стрымліваць выкананне сваіх жа ўласных загадаў.

Калі Генрых прыбыў на месца бою, яшчэ гучэлі адзіночныя выстралы, узляталі ў паветра ракеты, але партызан не было відна.

Пры святле ракет Генрых прыкмеціў доўгую постаць Лемке. Ён хадзіў паміж забітымі і паранёнымі італьянскімі салдатамі і пасылаў кулі са свайго пісталета ў тых, хто яшчэ падаваў знакі жыцця.

(Працяг на стар. 7)

267 268 269



 

# ЗЛОДЗЕЙ

(Працяг са стар. 1)

зы большы ад Янкі, вылежваўся ледзь не да поўдня. Бегаў босымі нагамі па сцюдзёнай расе, а ў жываце бурчэла ад голаду. Снеданне не хутка. Хоць бы кавалак сухога хлеба!

Нялёгка прыходзіўся гэты хлеб. Прыгнаўшы быдла дамоў на поўдзень і напхнуўшы жывот бульбай з бацвіннем, зноў да работы: травы свінням набраць, градкі палоць — работа заўсёды знойдзецца.

У школу хадзіць часу не было. Ішоў тады, калі ўжо быдла ў поле гнаць не было трэба. Дзеці ўжо прайшлі многа, дагнаць было цяжка. Знеахвочваўся тым і вучыўся дрэнна. З дзяцьмі здружыцца не ўмеў. Як на злосць яшчэ гэта рыжая купіна на галаве замест людскіх валос.

«Рыжы»! — крычаць на яго дзеці, і чым больш гневаўся, тым больш смяяліся. Кідаўся біцца, але на яго нападала адразу некалькі. Вяртаўся ў царапінах і сіняках.

З цяжкасцямі скончыў два класы. Ледзь чытаць па складах навучыўся ды ставіць на паперы нейкія кульфоны, мала падобныя да літар.

Уцёк ад дзядзькі ў мястэчка. Некалькі дзён хадзіў галодны, начуючы на станцыі. Прыгарнулі яго рыбакі. Памагаў ім, даставаў есці і кілішак водкі. Не маючы шаснаццаці год устроіўся на работу пры будовах. Цягаў цэглу, вапну, пясок. За гэта даставаў грошы. Першыя грошы, якімі мог свабодна распараджацца. Наняў сабе гэты пакойчык і чуўся зусім шчаслівы.

А цяпер перад зімой звольнілі. У правінцыянальным мястэчку зімой працу знайсці не так лёгка.

«Едзь у горад!» — добра ім гэта гаварыць.

Прыпомніліся начлегі на станцыі. А тады ж было цёпла. Можна было цэлымі днямі цягацца, а як трэба, дык і на траве праспацца. Дзе дзенешся, пакуль працу ды памяшканне знойдзеш, тым больш, што і грошай толькі столькі, колькі атрымаў пры разлічэнні. Зарплату расходваў. Трэба было і выпіць з таварышамі і пагуляць. Нат і не ведаў, як яны хутка зніклі, так што перад выплатай нават пазычаць прыходзілася.

— Што так галаву павесіў? — у дзвярах стаяў сусед Якуб. Янка не заўважыў нават, калі ён увайшоў у пакой.

Пра Якуба шырылася нядобрая слава. Скваплны быў да лёгкага хлеба. Калі працаваў, дык толькі для вока і столькі, колькі было неабходна, каб утрымацца на пасадзе ў прадпрыемстве направы самаходаў. Жыў значна лепш, чым можна было спадзявацца па яго скромных заработках. Яго дэвізам было: «Смерць разявакам», а разявакамі ў яго ўяўленні былі ўсе, хто жыў толькі з чэснай працы.

У прыватным жыцці Якуб быў таварыскі, любіў выпіць і з некім, але і сам у даўгу не заставаўся. Да Янкі ён адносіўся прыхільна, хаця і падсмейваўся з яго прастацтва. Не адну бутэльку разам выпілі.

— Чаму не зойдзеш да мяне? Часу не хапае? — у апошніх словах вычуваўся насмешлівы намёк на сітуацыю, у якой знаходзіўся Янка.

Нягледзячы на гэта, Янка быў задаволены, што можа адарвацца ад пякучых думак і пачуцця адзіноцтва, якое наведвае чалавека ў цяжкія хвіліны жыцця.

У Якуба за сталом сядзеў ужо равеснік Янкі, Франук. Гэтаму, калі ён не сядзеў у турме, жылося вельмі добра. Шастаў грашыма, як трэскамі, гуляў як «ухаркупец» і быў цвярозы толькі тады, калі вяртаўся дамоў пасля начлегу на ўчастку міліцыі. Янка не любіў яго і ўнікаў сяброўства з ім. Але цяпер яму было ўсё роўна.

Выпіўка зацягнулася да позняй ночы. На стале і пад сталом стаяла ўжо цэлая батэрыя пустых бутэлек па водцы, віне і піве, калі распачалася гэтая ракавая гутарка.

— Грошы ляжаць на вуліцы, трэба іх толькі ўмець падняць, — выводзіў гаспадар.

— Дзе? — здзівіўся наіўны Янка, якому ўжо добра курылася з раскудлачанага чуба.

— А хоць бы ў прадуктовым ларку.

— Ну, гэта не падымаць на вуліцы, а папросту ўкрасці грамадскую маёмасць, — здагадаўся Янка, а ў яго затуманеных алкаголем мазгах будзіўся пратэст.

— А табе грамадства многа дало? — пытаўся Якуб насмешліва.

Янка задумаўся.

Мімаволі ўспомнілася сумнае дзяцінства, дзядзька - кулак і апошняе звальненне.

— Гэта ж чужое, дык і папасці можна.

— Будзе наша! — настайваў на сваім гаспадар.

— Баішся? — іранічна спытаў Франук, які дагэтуль моўчкі прыслухоўваўся да гутаркі.

— Не баюся, але... — не ўмеў вытлумачыць, што гэтае «але» азначала.

— Вып'ем! — напаўняючы шклянкі водкай, запрапанаваў гаспадар.

Было ціха. Мястэчка было пагружана ў глыбокім сне, калі ўзброеныя ў лом Франук і Янка падышлі да ларка.

Франук залажыў лом у вушка замка. Трэск, быццам арматны выстрал — і замок бразнуў аб зямлю. Хвіліну стаялі моўчкі. Цемра ночы паглынула ўсе гукі. Было зноў ціха.

Янка ўвайшоў у ларок. Адчыніў шуфляду століка. Загарнуў злотых са сто дробніцы. Больш там не было. З полак набраў у кардонную скрынку шакаладу, цукерак, віна. Аддаў Франуку, які стаяў на варце. Узяў яшчэ, колькі мог. Вярнуліся да гаспадара.

— Варта было замок ламаць дзеля гэтага! — сказаў нездаволены гаспадар. — Нават на тысячу злотых не збярэцца. Дай мяшок. Пайшлі яшчэ раз.

Якуб схаваў крадзенае ў яму з бульбай. Тэрпентынай сляды да ларка папырскаў, і здаволены пайшоў спаць.

Галава балела Янку, калі прабудзіўся назаўтра, а яшчэ больш балела сэрца, калі ўспомніў учарашняе.

— Маўчы, хоць бы цябе на кавалкі кроілі, — з пагрозай сказаў учора на развітанне Якуб.

Маўчы! А тут крычаць на ўвесь голас хочацца. Бразнулі дзверы, Янка падскочыў. «Па мяне ідуць», — думаў. А гэта гаспадыня дамоў вяртаецца з ранніхнімі закупамі.

«А мо' пайсці самому ў міліцыю, але чым вытлумачышся? Што быў п'яны? За гэта, кажуць, яшчэ мацней судзяць, чым цвярозага. Пасадзяць, а пасля ад Якуба і Франука месца не знойдзеш. Асабліва Франука. Яму пырнуць нажом чалавека ні па чым.

Эх, як бы працаваў, каб толькі мець супакой, каб ніхто не чапаў».

Выехаць бы адгэтуль як найхутчэй. Але што гэта паможа? Падазрэнне адразу на яго будзе, а супольнікі выкарыстаюць гэта, каб усю віну на яго зваліць. Не выехаў. На трэці дзень прыйшла міліцыя.

— Дык вось ты які! — з дакорам глядзела гаспадыня.

Ішоў паміж двума міліцыянтамі пахіліўшы галаву. Баяўся спаткаць позіркам каго знаёмага. Толькі каля пастарунку азірнуўся навокал на шэрыя дамы, агалочаныя з лісцяў дрэвы, пустыя пакапаныя гароды і далёкі цёмны таемны лес. Глядзеў на гэта так, як бы ніколі ўжо не прыйшлося яму гэтага бачыць.

Міліцыянты затрымаліся разам з ім, як бы спачуваючы яго думкам.

— Злодзея павялі! — раздаўся голас праходзячых тратуарам людзей. Голас гэты ўкалоў, як нож, і вырваў Янку з задумы. Пахіліўшы галаву, ён ступіў на сходы, якія вялі яго на пастарунак.

**В. САВА**

## АБ'ЯВА

**21 лістапада (серада) ў беластоцкім Клубе міжнароднай кніжкі і друку ў 18[13] адбудзецца даклад рэд. Мацея Канапацкага на тэму: Янка Купала і Якуб Колас як прадаўжальнікі традыцый польска - беларускага літаратурнага сяброўства».**

# Гайнаўскія крамы

Ні ў адным павеце на Беласточчыне вёскі не маюць такіх прыгожых крамаў як на Гайнаўшчыне. У крамах многа прастору, чысціня, парадак. У іх новае сучаснае абсталяванне. Усе крамы самаабслугоўныя. Вельмі важнай справай з'яўляецца і тое, што кожная крама мае не менш як два магазіны.

Вёска Чаромуха таксама пабудавала такую ж самую выгадную краму (на здымку). Прадаўшчыцаю ў гэтай краме з'яўляецца Ніна Салінская (на здымку). Яна вельмі ветліва адносіцца да пакупшчыкаў, культурна іх абслугоўвае. Ніна Салінская з'яўляецца таксама членам праўлення гуртка БГКТ. Карыстаецца яна заслужаным аўтарытэтам сярод старэйшых і моладзі вёскі Чаромуха.

**М. Х.**



# „35 зл. таксама спатрэбіцца"

У Беластоку ветэрынара Сцяпана Кухту прыціснулі да сцяны.

— Развальваеце, дарагі, работу з гутаркамі аб жывёлагадоўлі! — злаваліся.

— Паверце, усё зраблю, — бажыўся ветэрынар.

Усё ж не зрабіў, і як сказалі мне паціху — Кухта нават не думае стрымоўваць сваіх абяцанак. У Беластоцкім павятовым праўленні сельскагаспадарчых гурткоў пакрыўдзіліся не на жарты за Сцяпанаву няслоўнасць. Не, не на Кухту. Разгневаліся перад усім на яго кіраўнікоў з ветэрынарнай службы, якія быццам вады ў губы набралі: маўчаць, не заікнуцца ў апраўданне нікчэмных учынкаў свайго працаўніка.

Заахвочаны Кухтавай бравурай весялей усміхнуўся Мікалай Шпіца, аграном спулдзельні прадукцыйнай у Лужанах, які меўся падвучыць землякоў, як ураджаі добрыя мець. Ясна, што Шпіцу і ў галаву не прыходзіла «марнаваць» на гэта цэнны час, сілы дарагія, нервы. А калі давялося адказваць на грознае пытанне, чаму і рота не адкрыў, каб выканаць узятае на сябе, прастадушна вымавіў: — Не было магчымасці пастаянна кантактавацца з паветам. Да станцыі ў Крынках дзесяць кіламетраў, да ПКС-аўскага прыпынку ў Баброўніках амаль столькі ж...

Дапусцім, што так. Значыць аграному (адукаванай асобе) таго і застаецца сядзець з заложанымі рукамі ў лужанскай глушы. Чакаць, аж мясцовым гаспадарам цудам пасвятлее ў галовах, у міг зразумеюць агратэхнічную культуру. Павятовая рада толькі паківала яму пачырванеўшым ад сораму пальцам. (Лепш, каб наківала, во!)

Склалася сумная прывычка прасвятляць сялян, ісці да іх з каганцам навукі, але... у час шумных нарад пры яркім неонавым асвятленні гарадскіх канферэнц - залаў. Вышаўшы за ясны парог, дзіўна хутка забываем горача дыскутаваныя ідэалы народнай асветы. Часам, мы — аграномы, заатэхнікі, ветэрынары — паедзем — іменна, паедзем, а не пойдзем — куды - небудзь і бы з ласкі кінем люду пару ахлапінаў са сваіх фаховых ведаў. Надта ж не любім прайсці два — тры кіламетры да заглохлай мясціны ад якойсьці станцыі ці аўтобуснага прыпынку. Нецярпліва паглядаючы на гадзіннік спяшаемся дамоў, каб найчасцей ужо болей тут не паказацца.

На тэрыторыі Беластоцкага павета шмат чаго не даведзена да канца ў

## ТУТ

сельскагаспадарчай асвеце, асабліва, ва ўсходніх раёнах. Хто вінаваты? Вядома — гразкія дарогі, снежныя зімы і... цёмны народ, які не пунктуальна збіраецца на сход. Іншы раз паімчымся службовай «Варшавай» да забытай Ялоўкі ды паслухаем выкрыкаў і стукату кулаком у стол старшыні грамадскай рады Матуса на конт таго, што, моў, у гэтым годзе ён напэўна сарганізуе хаця б адзін на ўсю грамаду сельскагаспадарчы гурток. Па дарозе грахнем на Шымкі, якія, нябось, голымі

# Рэпартаж аб героях сучаснасці

(Працяг са стар. 1)

Школа мае шырокую магчымасць уздзеяння не толькі на вучняў, але і на ўсё асяроддзе, мае магчымасць дапамагчы насельніцтву ў паднясенні на вышэйшы ўзровень сваёй гаспадаркі. Школа ў Клюковічах поўнасцю карыстаецца гэтымі магчымасцямі. У Клюковічах ужо другі год існуе школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, у якой вучыцца амаль уся моладзь вёскі і шмат старэйшых асоб.

Язэп Палка шмат чаго яшчэ мог бы расказаць нам. Нельга аднак злоўжываць яго гасціннасці і яго каштоўнага часу. Ён жа не толькі настаўнік, загадчык школы, ён — таксама выдатны грамадскі дзеяч, сакратар Грамадскага камітэта ПАРП.

Вось і зараз. Загадчык падыходзіць да тэлефону, звоніць да Грамадскай рады, да настаўнікаў суседніх школ, прыдзяляе членам партыі партыйныя абавязкі: правесці ў вёсках сходы. Малодзенькая настаўніца з Клюковіч, Вера Зіневіч, атрымлівае заданне быць сёння вечарам у суседняй вёсцы.

— Ці не баіцеся, — пытаю, — вяртацца позна ноччу дамоў?

— Крыху баюся, але нічога, нам гэта часта так прыходзіцца, — адказвае настаўніца.

Па дарозе можам завітаць яшчэ дзе-небудзь. Вось, напрыклад, Рагачы. Настаўнікам гэтай школы ўдалося з моладдзю вёскі разгарнуць шырокую клубную працу. Праз дзень збіраецца тут моладзь, а часам і старэйшыя, п'юць добрую, моцную каву, дыскутуюць, слухаюць гутарак на розныя тэмы, або проста цікавых радыёперадач.

А можа перанясемся



Галоўны будынак рэактара Акадэміі навук БССР.



У фізічнай зале на верхняй пліцоўцы рэактара вядуцца працы па загрузцы актыўнай зоны.

Сельская гаспадарка без таямніц

# Усё на кампосты

(ч. І)

Тут былі калісь багна і дрыгва. Ніколі не ступала тут нага чалавека. Гэт месца было крыніцай легенд, казак і забабонаў. Стагоддзямі ўтвараўся тут торф. Першы ўспамін аб яго здабычы знаходзім у творах Плінія Старшага ў 25 годзе нашай эры. Аб зыкарыстанні торфу ў Еўропе сустракаем доказы ў XVI стагоддзі.

Пішам аб торфе, а гаворка ж мела быць аб кампостах. Памылка? Зусім не. Торф — гэта асноўная, найлепшая, найбольш вартасная сыравіна для кампаставання.

У гэтым сэнсе Беласточчына мае выключныя прывілегіі. Торф — гэта наша «чорнае золата». Тарфяныя глебы займаюць каля чвэрці мільёна гектараў. Толькі выкарыстоўваць, у тым ліку, вядома, і на кампосты.

Шмат гаспадароў, напрыклад, у Ломжынскім павеце ад даўна торфам пакрываюць недахоп арганічных угнаенняў. Шырокая даследчая праца вядзецца на гэтую тэму на сельскагаспадарчай даследчай станцыі ў Бебжы, Граеўскі павет. Абапіраючыся на іх доследы, напішам аб кампостах.

Што такое кампосты? Гэта арганічная маса, адпаведна сферментаваная, якая мае ў сабе значную частку пажыўных рэчываў. Вядома, іх вартасць залежыць ад матэрыялаў, з якіх былі зроблены, так званых кампанентаў.

Што кампаставаць? Усё, што мае вартасць угнаення. А менавіта: торф, гной, фекаліі, гнаянка, зялёная маса (асабліва лубін), а таксама шмат адпадкаў гаспадарчых, пустазелле, смецце.

Найважнейшыя кампаненты — гэта торф і гной. Даем іх у прапорцыі 1:1 або 2:1. Такі кампост часта мае тую самую вартасць, што адзін гной. Гэта мае вялікае значэнне, асабліва ў нашым ваяводстве, дзе недахоп гною дасягае дзесяткаў тысяч тон.

Як прыгатаваць кампост? Нічога асабліва цяжкага ў гэтым няма. Выбіраем месца ў цяню, куды не даходзіць вецер і не затапляе вада. Шырыня прызмы складае 2—3 м, а вышыня не павінна перавышаць 1,8 м.

Торф складаем пластамі таўшчынёй у 20—30 см на змену з гноем. Уся маса павінна быць даволі вільготнай. Найлепшыя ўмовы для ўтварэння кампосту пры вільготнасці 60 — 70%.

Позняй восенню можна зрабіць інакш. На ніз даем пласт торфу таўшчынёй 60—70 см, затым 60—80 см. гною, а наверх зноў 50—60 см торфу. У такім складзе ўтрымліваецца нават зімой тэмпература 20 — 25°C.

Такі кампост гатовы праз 6 месяцаў. Тады ён мае цёмны колер і лагодны запах зямлі. Пад палявыя культуры (галоўным чынам бульбу) кладзецца ад 30 да 40 тон кампосту на гектар, а пад гародніну 50—60 тон.

За тыдзень чытайце аб іншых відах кампостаў.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# БЕЛАРУСКІ АТАМ



Пры дапамозе механічных маніпулятараў вядзецца абпраменьванне сельскагаспадарчых культур.

## 700 млн. непісьменных

Згодна з данымі ЮНЕСКА, з 1,6 мільярда чалавек дарослага насельніцтва зямнога шара (ва ўзросце ад 15 год) прыкладна 700 мільёнаў, або амаль палавіна, непісьменныя. У цяперашні час у 97 са 158 дзяржаў і тэрыторыі ўсяго свету колькасць непісьменных перавышае 50 працэнтаў усяго дарослага насельніцтва, у 17 з іх — непісьменных ад 80 да 85 працэнтаў, а ў шасці краінах — ад 85 да 90 працэнтаў.

Група фізікаў пад кіраўніцтвам галоўнага інжынера рэактара В. Ф. Краснаштанава робіць першыя запіскі ў кантрольных журналах.



Абпраменёнае ізатопам $Co^{60}$ насенне дало дружныя ўсходы на доследным полі.

Фота В. БАРАНОЎСКАГА

## На дне Мазурскіх азёр

Гэта было сямнаццаць год назад — у тыя дні, калі гітлераўскія войскі адкатваліся пад ударамі Савецкай Арміі на захад.

Па шматлікіх Мазурскіх азёрах, укрываючыся ў пратоках ад савецкіх самалётаў, кідалася яхта. Яе вялі некалькі эсэсаўцаў. Апроч іх, на борце знаходзіліся палякі, мабілізаваныя на прымусовыя работы.

Яхта была не зусім звычайнай: яе корпус, мачты і ўсе надбудовы былі зроблены з каштоўных парод чырвонага і чорнага дрэва. Гітлераўцы, відавочна, намагаліся вывесці гэты скарб па каналах да порта Эльблонг, адкуль морам можна было дабрацца да Рэйна.

Але шлях ужо быў адрэзаны савецкімі часцямі. Пасля доўгіх блуканняў эсэсаўцы ноччу затапілі яхту ў адным з невялікіх азёр. Каб не засталося сведкаў, яны замкнулі польскіх рабочых у каютах судна.

Але двое з нявольнікаў ўсё такі выратаваліся. Схаваўшыся ў лесе недалёка ад берага, яны бачылі, як на світанні эсэсаўцы вывозілі ў лодцы на сярэдзіну возера нейкія цяжкія прадметы і кідалі іх у ваду. Відавочна, яны хацелі мець поўную гарантыю, што яхта не падымецца.

Вось, бадай і ўсё, што ведалі аб таямнічай яхце, якая прыналежала Герынгу.

Спробы знайсці яхту, робленыя скарбашукальнікамі - энтузіястамі, пакуль не ўвянчаліся поспехам. Дык відавочцы затаплення дапамагчы ім не маглі: адзін з іх, уратаваўшыхся, даўно памёр, другога адшукаць не ўдалося.

Няма сумненняў, што разам з яхтай захавана недзе на дне возера нямала награбленых скарбаў. Нездарма пошукамі затопленай яхты цікавяцца ў Заходняй Германіі. Адзін турыст з ФРГ нават прыбыў на Мазуры з маторнай лодкай і вадалазнымі прыладамі. Аднак гэты «госць» знік, як толькі міліцыя вырашыла высветліць, што яго звабіла сюды.

Скарб, пахаваны гітлераўцамі, можа стацца каштоўнай уласнасцю Польскай Народнай Рэспублікі. Ён яшчэ чакае сваіх адкрывацеляў.

# Трыбуна чытачоў

## Пакрыўджаная вёска

Боркі найбольш адлеглая вёска ад павятовага мястэчка, Саколкі. Раскінулася яна ў лесе, непадалёк рэчкі Супраслі. Аб ёй мусіць мала помняць павятовыя ўлады. Няма там ані электрычнага святла, ані радыёкропак, ані тэлефона. Кінаперасоўка таксама не даязджае. Людзі там разумеюць, што з электрыфікацыяй не так ужо простая справа. Яна будзе праведзена згодна з планам праз некалькі год. Але правесці тэлефон у вёску — гэта ж зусім лёгка. Тым больш, што сяляне Борак згодны даць свае слупы і дапамагчы іх укапаць. А тэлефон вельмі неабходны ў вёсцы. Вось, напрыклад, якое-небудзь калецтва альбо пажар. Пакуль дабяжыш ці даедзеш да тэлефона за 5 км да Сакалды ці Копнай Гары, дык і ратунак можа быць непатрэбны.

У Борках хочуць людзі глядзець кінафільмы. У вёсцы ёсць вялікая школа, але кінаперасоўка ў Боркі не заглядае. І за гэта крыўдна людзям, таму што тэтыя справы без вялікіх цяжкасцей можна ўладзіць. Неабходна толькі крыху дапамогі з боку павятовых улад. (мх)

## СЯБРА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

(Працяг са стар. 3)

снавання «Камэны» — часопіса, з якім столькі ў мінулым спалучала і зараз спалучае К. А. Яворскага. Да гэтага юбілею пісьменнік падрыхтоўвае спецыяльнае выданне, у якім знойдуцца яго ўспаміны. Крыніцай тут паслужаць захаваныя пісьменнікам багатая перапіска са славянскімі паэтамі, уражанні з сустрэч з многімі з іх, ды і самыя гадавікі гэтага каштоўнага часопіса. Адздельнае месца прысвеціць польскі паэт сувязям з беларускімі творцамі, сваім перакладам і наогул усялякім праявам ва ўзаемаадносінах з беларускай літаратурай.

Казімеж Анджэй Яворскі паспяхова працягвае сваю творчую дзейнасць. Нястомны, поўны новых планаў напэўна парадуе нас свежымі арыгінальнымі творамі і перакладамі. Беларуская ж літаратура дзякуючы яго майстэрскаму пяру яшчэ больш наблізыцца да польскага чытача, які не павінен забываць, каму ўдзячны за пераклады — гэты плён цяжкай і высакароднай творчай працы.

Мацей КАНАПАЦКІ

## Тут не смех

(Працяг са стар. 5)

справаздачы, у якой аж кішыць ад высокіх сцвярджэнняў. — «Сельскагаспадарчыя курсы і гутаркі з'яўляюцца асноўным штуршком павелічэння прадукцыйнасці гаспадарак» (?) Прачытаўшы такую мудрасць, прыходзіцца хутчэй за ўсё не ўсміхацца над людской пампатычнасцю, але прызадумацца над лёсам сельскагаспадарчай асветы ў нашых вёсках.

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

(Працяг са стар. 3)

Убачыўшы Генрыха, Лемке хутка накіраваўся да яго.

— Вось усё, што засталося ад некалькісот італьянцаў, — сказаў ён, паказваючы на забітых. — Рэшта разбеглася.

— Выходзіць, вы досыць паспяхова страллялі па абяззброеных, замест біцца з гарыбальдыйцамі! — ушчыпліва сказаў Генрых. Ён адчуў, як невымоўная лютасць ахапляе яго ўсяго. З якою ж асалодай ён разрадзіў бы свой пісталет у гэтую жывёліну, што спакойна пыхкае сігарэткай. Але трэба было стрымацца, і ўжо цалкам спакойным тонам ён запрапанаваў агледзець партызанскія пазіцыі.

— Звярніце ўвагу, — злосна сказаў Лемке, — іхнія пазіцыі добра замаскаваныя і, відавочна, загадзя падрыхтаваныя. Яны чакалі на нашу калону...

— Выходзіць, што іх нехта папярэдзіў, — спакойна канстатаваў Генрых.

— Але хто? — ці то сам сябе, ці то Генрыха спытаў Лемке. — Вы каму-небудзь гаварылі пра адпраўку італьянцаў?

— Ніводнай душы!

— Тады хто ж?

— А чаму вы думаеце, што папярэдзіць партызан мог нехта з майго акружэння, а не з вашага?

— Маё акружэнне складаецца толькі з немцаў, а сярод вашага ёсць італьянцы.

— Пасля замаху на фюрэра нельга давяраць і немцам! — кінуў Генрых.

Лемке змоўк. Генрых таксама маўчаў.

— А скажыце, вы давяраеце сваёй перакладчыцы? — неспадзявана спытаў Лемке, калі яны ўжо ехалі ў Кастэль ла Фантэ.

— Я яе некалькі разоў правяраў. Яна цалкам апраўдвае характарыстыку графа Рамоні, які даў ёй вельмі добрую рэкамендацыю.

— А ў мяне яна выклікае пэўныя падазрэнні.

— Каб успакоіць вас, я яе яшчэ раз праверу, нават спецыяльна справакую, пакінуўшы на стале нейкі быццам бы сакрэтны дакумент, — кінуў Генрых.

Ён глянуў на Курта, што з акамянелым тварам сядзеў за рулём, і зразумеў, што сённяшняя размова за некалькі мінут стане вядомай Лідзіі.

(Працяг за тыдзень)

263

### ЗБУЧАЎСКІ СЕЛЬГАСГУРТОК

Сельскагаспадарчы гурток у Збучы даволі малады. Яму толькі два гады. Арганізаваўся ён з ініцыятывы партыйнай арганізацыі, якой усе 13 членаў першыя падпісалі дэкларацыі і статуты гэтага сельскагаспадарчага аб'яднання. Зараз сельгасгурток мае дзве снапавязалкі, два культыватары, дзве капачкі, 2 збожжавых сеўнікі, 2 сеўнікі да мінеральных угнаенняў, а таксама два трактары.

м. х.

### НОВЫЯ ЛЕСНІЧОЎКІ

Услед за агранамоўкамі пачынаем звяртаць штораз большую ўвагу на неабходнасць будавання лесьнічовак. У часы апошняй вайны шмат іх было спалена, засталіся адно абгарэлыя фундаменты, парослыя пушчанскай расліннасцю.

Цяпер будуецца лесьнічоўка на тэрыторыі радунінскага лясніцтва, а з прыходам вясны пачнецца будова новай лесьнічоўкі ў скрабляхоўскім лясніцтве Беластоцкага павета. (ся)

## Парады нашага праўніка

## Аплаты за электрыфікацыю

Пры электрыфікацыі вёскі сяляне абавязаны пакрываць частку коштаў, якія выкладае дзяржава на гэту мэту.

Аплаты абавязаны ўносіць уласнік будынкаў, аднак, калі будынкі знаходзяцца ў карыстанні іншай асобы, прэзідыум пав. рады нарадовай (фінансавы аддзел) можа перакласці гэты абавязак на карыстальніка будынка.

У вёсках, дзе аб'яўлена агульная электрыфікацыя, яна можа быць праведзена незалежна ад волі ўласніка або карыстальніка будынка, а належная аплата можа быць сцягнута прымусова адміністрацыйным парадкам.

Высокасць аплаты ўстанаўліваецца адпаведна да даходу гаспадаркі, аблічанага для мэтаў падатковых у другім годзе перад электрыфікацыяй. Гэтыя аплаты не могуць накладацца на тых, хто мае ў электрыфікаванай вёсцы толькі зямлю, без забудаванняў, або нават забудаванні, якія не ахоплены планам электрыфікацыі.

Пры абліччэнні даходаў гаспадаркі бяруцца пад увагу таксама трывалыя даходы, якія атрымоўвае ўласнік гаспадаркі з іншых крыніц, а асабліва з зарплаты, калі працуе па-за гаспадаркай.

Вытворчыя кааператывы плацяць паводле найніжэйшай нормы, якая прадбачана для індывідуальных гаспадарак.

Аплата раскладаецца на дванаццаць рат, якія ўплачваюцца штоквартал на працягу трох год. Пры існаванні сур'ёзнай прычыны прэзідыум пав. рады можа разлажыць сплаты на чатыры гады.

Той, хто хоча залажыць інсталяцыю больш нормы, якую прадугледжвае план электрыфікацыі, мусіць заплаціць поўныя кошты за панадпланавыя інсталяцыі.

Справы, звязаныя з электрыфікацыяй, рэгулюе закон ад 28 чэрвеня 1950 г. аб агульнай электрыфікацыі вёсак і пасёлкаў, апублікаваны ва ўрадавым Дзённіку з 1954 г. № 32 паз. 135 і ўхвалай № 400 Рады Міністраў ад 14 снежня 1959 г., апублікаваным у Польскім Маніторы № 103 за 1959 год, пазіцыя 554.

## Школа ў Дубяжыне

Школа ў Дубяжыне існуе ўжо шмат гадоў. Вучыцца ў ёй 100 вучняў і працуе 5 настаўнікаў. Вучацца тут дзеці з трох вёсак: Дубяжына, Дыдулёў і Мокрага. У школе ёсць багатая бібліятэка. Навокал школьнага будынка пасаджана дрэўкі.

Мікалай Нікіцюк
Мокрэ

## Клопаты Пасынскай моладзі

У Пасынках існуе сельскагаспадарчы гурток, які ў вельмі кароткім часе здабыў папулярнасць. Мае ён ужо 2 трактары, наладзіў калектыўную дастаўку нарыхтовак дзяржаве, яго члены добра працуюць. Але людзі, асабліва моладзь, не могуць увесь час жыць толькі думкай аб трактарах.

У Пасынках няма ніякага культурнага жыцця. Бо што з гэтага, што бібліятэка мае шмат кніжак. Брак святліцы адбіваецца на ўсёй працы моладзі. Няма дзе сабрацца, каб нешта арганізаваць. Моладзь блукае ў цемры сваіх думак і топіць сум у гарэлцы. Яе хапае ў краме, і можна дастаць у кожны час, нават у нядзелю.

У гутарцы з жыхарамі Пасынак я адчуў нешта такое, быццам яны былі пакрыўджаны, быццам ім нехта чагосьці многа наабяцаў і не здзейсніў гэтых абяцанак. Але ж мы жывем ужо ў дваццатым стагоддзі і манна не ўпадзе з неба. Трэба самім паварушыць галавою. Пры такіх магчымасцях, якія маюць Пасынкі, пабудова святліцы — не такая ўжо вялікая праблема. Але няма каму ўзяцца за гэту справу, кожны аднекваецца і глядзіць на іншых. І тут шырокія магчымасці і важнае заданне для мясцовага гуртка БГКТ. Ажывіць культурную працу сярод моладзі, прабудзіць яе да дзейнасці.

К. Каліна

### ТОЛЬКІ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ




**Дарагое СЭРЦАЙКА!**

Хоць я і старэйшы мужчына, аднак хачу з Табой параіцца ў маёй бядзе. А вось паслухай. Мне цяпер 35 год. Жонцы маёй — 34 гады. Маем таксама 10-цігадовага сына. 5 год таму назад у нашу кватэру прынялі мы маладога хлапца, які тады меў 19 год (цяпер 24 гады). Хлапец гэты працаваў у адной з Гайнаўскіх установ. Я працаваў і далей працую шафёрам, а жонка заўсёды займалася толькі домам і дзіцём. Да гэтага часу ўсё было добра, і я нічога не заўважаў. А вось восем месяцаў таму жонка ўцякла з Юркам (так завецца наш кватарант) на Заходнія Землі і забрала з сабой майго сына.

Сэрцайка, ці ж можна сабе ўявіць, колькі я мог перажыць бяды і сораму, а я ж кахаю сына і жонку. І вось цяпер, 2 тыдні таму, яна вярнулася да сваіх бацькоў і просіць у мяне прабачэння. Кажа, што яна зрабіла гэта першы і апошні раз і не можа ўявіць сабе, як у такіх гадах магла зрабіць такое глупства. І што мне рабіць, як паступіць, каб пасля не шкадаваць.

Язэп
з Гайнаўкі

**Дарагі Сябра!**

Іменна з увагі на дзіця, якое дагэтуль выхоўвалася ў цёплай сямейнай атмасферы, вы павінны пагадзіцца. Добра, што жонка зразумела, што паступіла дрэнна, і што перад табою каецца за свой учынак, а найважнейшае, абяцае, што ніколі штосьці падобнае не здарыцца з яе боку. Але тут мусіць быць і твая сільная воля. Калі ты ўжо згодзішся прыняць жонку, дык памятай, каб ніколі ў жыцці ёй гэтым не прытыкаў. Трэба аб гэтым забыць назаўсёды, а жыццё ваша будзе зноў шчаслівым. Усяго добрага жадае Вам

СЭРЦАЙКА

# КІНО

**ПРАГРАМА на 19.XI—25.XI.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Wszędzie żyją ludzie" (czeski), 20—22. „Tragiczny zamach" (jugosł.), 23—25.

**Кляшчэлі**
„Cichy Don" II s. (radz.), 20—22. „Cichy Don" III s. 23—25.

**Навасады**
„Herszt" (franc.), 24—25.

**Нараў**
„Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 21—25.

**Нараўка**
„Miłość powraca wiosną" (radziecki), 21—25.

**Чаромуха**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 20—22. „Koniec drogi" (bułgarski), 23—25.

**Чыжы**
„Zmartwychwstanie" (radz.), 21—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 21—25.

**Бранск**
„Płonąca wyspa" (radz.), 20—22. „Bitwa o Kozi Dwór" (polski), 23—25.

**Гродзіск**
„Tu radio Gliwice" (NRD), 24—25.

**Орля**
„Zmartwychwstanie" II s. (radziecki), 21—25.

**Райск**
„Taka miłość" (czeski), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Tomcio Paluch" (meksykański), 20—22. „Ten który wrócił" (radz.), 23—25.

**Міхалова**
„Marcin w obłokach" (jugosł.), 20—22. „Bestia" (węgierski), 23—25.

**Супрасль**
„Teresa prowadzi śledztwo" (czeski), 20—22. „Aby kwitło życie" (polski), 23—25.

**Чорна Беластоцкая**
„Na tropie" (franc.), 20—22. „Człowiek z zza biurka" (włoski), 23—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Noc szpiegów" (franc.), 20—22. „Bestia" (węgierski), 23—25.

**Мілейчыцы**
„Pragnienie" (węgierski), 20—22. „Jak się młody Noszty żenił" (węgierski), 23—25.

**Нурэц**
„Trzecia licealna" (włoski), 20—22. „Jutro premiera" (polski), 23—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„SOS Titanic" (angl.), 20—22. „Ukryte skarby" (czeski), 23—25.

**Сухаволя**
„Portier z Lazurowego Wybrzeża" (franc.), 20—22. „Herszt" (franc.), 23—25.

**Шудзялава**
„Obcy ludzie" (radz.), 21—25.

**Янаў**
„Profesor Mamlock" (NRD), 20—22. „Majowe gwiazdy" (czeski), 23—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Gorsza miłość" (węgierski), 24—25.

**Новы Двор**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.), 24—25.

**Ружаны Сток**
„Burzliwa młodość" (radz.), 24—25.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000. Błtk F-1

### НІЧОГА САБЕ

Аднойчы на нарадзе старшынь гээсаўскіх камітэтаў старшыня праўлення ПЗГС запытаўся ў аднаго з удзельнікаў:

— Як ваш прадавец?

— Нічога сабе... — адказаў той.

— А ваш? — звярнуўся ён да другога.

— Так сабе...

— А ваш? — спытаў у трэцяга.

— Усё сабе...

*

### ІДЭЯ

Маленькай Гані дазволілі сесці за стол разам з дарослымі пры ўмове, што яна будзе добра сябе паводзіць і ні аб чым не будзе прасіць. Калі падавалі дэсерт, пра Ганю забыліся. Дзяўчынка спачатку сядзела спакойна, а потым не вытрымала:

— Ці не патрэбна каму, выпадкам, пустая талерка?

*

### АДКУЛЬ?

Маліноўскі за снеданнем убачыў раптам у ранішняй газеце некралаг на сябе. Здзіўлены, звоніць у рэдакцыю.

— Чыталі сёння некролаг пра мяне?

— Так. А адкуль ты звоніш?

*

### РОЗНІЦА

Вучня пытае знаёмая жанчына:

— Ходзіш у школу?

— О, не! Мяне пасылаюць.

*

### У ЧУЖЫМ ВОКУ ЦЕРУШЫНКА

Кіраўнік установы, ідучы на службу, сустрэўся са сваёй машыністкай і тут жа абвясціў ёй суровую вымову за спазненне на работу.

### З АНЕКДОТАЎ АБ СЛАЎНЫХ

Аскар Вільдэ быў частым госцем касіна гульні ў Вішы. У 1900 годзе даўжэйшы час не шанцавала яму ў гульні. Аднойчы, выходзячы, спытаў у парт'е:

— Ці можаце мне пазычыць дваццаць франкаў?

— Вядома, — адказаў парт'е, падаючы банкнот.

Вільдэ вялікапанскім жэстам адхіліў яго руку: — Затрымайце, прашу, іх пры сабе. Гэта было для вас.

### РАСТЛУМАЧЫЎ

— Ад чаго выводзіцца слова доўг?

— Ад таго, што часта вельмі доўга яго аддаюць.




## АФАРЫЗМЫ

**Калі Бог хоча пакараць зайца, дык робіць яго адважным.**

**Лаўравы вянок можа часам перэтварыцца ў павязку на вачах.**

**Не лётай вельмі высока. Не заўважаць.**

**Пішучы пальцам па вадзе, хоць рукі будзеш мець чыстыя.**

**Сапраўдная размова пачынаецца звычайна пасля слоў: «Ат, не будзем пра гэта гаварыць».**

**Ніколі не біся галавою аб сцяну. Сусед можа пакрыўдзіцца.**

Няма звера страшнейшага за мыш.

### ГУЛЬНЯТЭКА

Закрыйце левае вока, а правым глядзіце на крыж на адлегласці каля 25 см — белы круг знікне.

### НЕ ЎЖЫВАЕ

— Васьмідзесяцігадовы палітык, і мае зусім здаровае сэрца.

— Нічога дзіўнага, ён жа яго ніколі не ўжывае.

### Больш стойкія таварышы

«Павінен вам заявіць, што ў той раз пасланыя намі ўпаўнаважаны падвялі. Напрыклад, таварыш Раманкевіч не паспеў прыехаць у вёску, як хапіў 150 грамаў і зваліўся пад плотам. На гэты раз мы падабралі больш стойкіх таварышаў».

(З дакладной запіскі).

### КУР'ЁЗЫ

### Аднолькавыя думкі

Як толькі абвінавачаны Георг Джонс пачуў, што суддзя пакараў яго адным месяцам турмы за сістэматычны праезд без білета, ён усміхнуўся і сказаў:

— Я якраз думаў звярнуцца да лекараў па прычыне стану майго здароўя, а турэмныя лекары, як мне вядома, выдатна абслугоўваюць сваіх пацыентаў.

Можна паверыць у гэтым Джонсу, паколькі гэта было яго сто сорак трэцяе пакаранне.

**Што ў каго баліць...**



— Доктар, што вы там падслухоўваеце?

### НАСТОЙЛІВЫ

— Злазь з печы ды працаваць ідзі! — казала сыну маці. — Усе людзі вунь завіхаюцца, толькі ты лайдачыш, лежабока.

— Не злезу, — азваўся сын. — Не таму, што я лайдак, а таму, што настойлівы: сказаў не злезу, і не злезу.

Іван МУРАВЕЙКА

### Каб не кювет

Шафёр Сцяпан сваёй машынай
Прывёз Андрэю з лесу дроў.
Ага — законная прычына!..
— Сядай, Сцяпане... Будзь здароў!
Сцяпан аднекваецца крыху,
Ды гаспадар не адстае:
— Ты крыўдзіш нас. Паедзеш ціха...
І той хоць моршчыцца, а п'е.
Адзін стакан, другі стакан...
За руль садзіцца наш Сцяпан.
І ён даехаў бы дахаты,
Калі б не той кювет пракляты.

— І вось я гавару ёй: Жонка не павінна ўшчэмліваць асабістай свабоды мужа.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Тацяны Шэўчук** і **Лілі Сакоўскай** з Бельска змяшчаем песню

### Прощайте голуби!

Словы М. Матусоўскага — Музыка М. Фрадкіна



Вот и стали мы на год взрослей,
И пора настаёт.
Мы сегодня своих голубей
Провожаем в прощальный полёт.

Пусть летят они, летят
И нигде не встречают преград.

Что же так затуманилась вдруг
Синева наших глаз?
Это, выпорхнув прямо из рук,
Годы детства уходят от нас.

Пусть летят они, летят,
Им уже не вернуться назад.

Мы выходим в дорогу вдвоём,
А заря всё ясней.
И, как память о детстве твоём,
Тихо кружится пух голубей.

Пусть летят они, летят,
Словно в зимние дни снегопад.

Наступай, наше завтра, скорей,
Распахнись, небосвод.
Мы гоняли вчера голубей,
Завтра спутников пустим в полёт.

Пусть летят они, летят
И нигде не встречают преград.

## БЯССОННАЯ НОЧ

Ну і скажыце, людзі добрыя, што за непрыемнасці находзяць на чалавека. Ноч такая месячная, ціхая, урачыстая, а чалавек варочаецца на ложку і — хоць доктара выклікай — спаць не можа.

Падатак аплачаны, кантрактацыя выканана, кажух бабе куплены, сыну ў войска грошы высланы, ну і спі сабе суслікам. Дык не, сон уцякае, бы кот ад сабакі!

Усе ў хаце спяць сном праведным. Баба пад носам бурчыць праз сон (відавочна, чагосьці ў дзень не дагаварыла), дзед храпе, аж шыбы дрыжаць, а ў мяне ні ў якім воку сна няма і на макавае зернятка. Пры гэтым думкі лезуць назойлівыя, бы мухі, і адмахнуцца ад гэтых думак не ўдаецца.

Пасля поўначы заўсёды Дзмітро лазіць п'яны па вёсцы. Якраз цяпер чутны крокі за акном. Чаго добрага, швырне акурак нягашаны і чырвоны певень распусціць крылы над гаспадарствам.

Суседка Параска — аглобля ёй у бок — устае перад світаннем і па прывычцы свіней выпускае з хлява. Хто за гэтых свіней паручыцца, што яны са свінскім нахабствам не пралезуць пад плотам і ў садзе не дарыюцца да карэнняў маладых дрэвак?

У Піліпавай хаце даўно сажа не чышчана. Як загарыцца гэта сажа, паляцяць іскры ў наш бок. Хоць ты ўставай і дуй за мокрымі шматамі ды вартуй на крышы, пакуль у Піліпа паліцца.

Каня падкаваць трэба, а каваль у нас малады, мала вопыту мае. Барані ад граху, убʼе гуфналь дрэнна, акалечыць каня і вазіся потым з конскай нагой як з уласнай.

— Чаго, паўночнік, варочаешся, спаць не даеш? — пачуўся спрасонку нездаволены голас жонкі.

— Прыснілася табе, каханая, гэта не я, думкі мае варочаюцца, — адказваю і ўстаю закурыць.

Уваходжу ў кухню, а там... (трымайце мяне пад рукі, анёлы ахоўнікі!) кот нагаспадарыў. Слоік са смятанай перавярнуў, сала злопаў, у муку напаскудзіў і лапамі загроб, каб гаспадыня не знайшла. Адным словам спусташэнне, ды і толькі.

Кот, значыць, таксама мучыўся ад бяссонніцы.

Галоўная гісторыя пачнецца, як баба ўстане ды ўбачыць, хто ёй у гаспадарстве памагаў.

Ад граху выкіну ката за двор. Бабе пачну даказваць, што ў кухні суседаў кот быў. Каты, шэльмы, праз трубу ўваходзяць і жонкына віна, што трубу не закрыла.

Людзі добрыя, у тымта і загвоздка, што чалавек думае і раздумвае ў бяссонныя ночы і дадумацца не можа, з якога боку і калі бяда зваліцца.

Дзядзька Лявон